*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*





# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 47 (259)

22 лістапада 1995 г.

Кошт — 500 рублёў


## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **ПРЭЗІДЭНТАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДРАМ ЛУКАШЭНКАМ ПАДПІСАНЫ УКАЗ «АБ ЗМЯНЕННІ СТРУКТУРЫ ЦЭНТРАЛЬНЫХ ОРГАНАЎ КІРАВАННЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ».** У ім, у прыватнасці, гаворыцца: «Рэарганізаваць: Камітэт па спорту Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь у Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь; Савет па справах рэлігій Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь у Савет па справах рэлігій пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь шляхам яго раздзялення на Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку. Уключыць Камітэт па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь у структуру Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь».

○ ***НАЗНАЧАНАЯ НА КАНЕЦ ГЭТАГА ГОДА СУСТРЭЧА КІРАЎНІКОЎ ДЗЯРЖАЎ СНД АДБУДЗЕЦЦА ТОЛЬКІ Ў СТУДЗЕНІ-ЛЮТЫМ НАСТУПНАГА.*** *Яна перанесена з улікам пажаданняў Расіі, Украіны і Казахстана.*

○ **АДБЫЛАСЯ ПРЭЗЕНТАЦЫЯ АДУКАЦЫЙНАЙ ПРАГРАМЫ АДКРЫТАЙ ШКОЛЫ БІЗНЕСУ БРЫТАНСКАГА АДКРЫТАГА УНІВЕРСІТЭТА.** На ёй пераважна гучалі расійская і англійская мовы. Анатоль Майсеня, прэзідэнт Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход-Захад», выступіў па-беларуску і сарваў апладысменты.

○ ***У МЕНСКУ АДБЫЎСЯ АЎКЦЫЁН ПА ПРОДАЖУ АБ'ЕКТАЎ КАМУНАЛЬНАЙ УЛАСНАСЦІ СТАЛІЦЫ.*** *322 прапанаваных аб'ектаў набылі гаспадароў 8. Уласнікамі сталі нашы суайчыннікі.*

○ **У МЕНСКУ ПРАЙШЛА І СЕСІЯ БЕЛАРУСКА-ГЕРМАНСКАЙ ЗМЕШАНАЙ КАМІСІІ ПА КУЛЬТУРНАМУ СУПРАЦОЎНІЦТВУ.** Было падпісана ўрадавае пагадненне, дзе галоўны акцэнт зроблены на абмен студэнтамі, выкладчыкамі, нават цэлымі школьнымі класамі, а таксама журналістамі, навукоўцамі, дзеячамі культуры, прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый.

○ ***31 СНЕЖНЯ — АПОШНІ ДЗЕНЬ ПРЫЁМУ ЗАЯЎ ГРАМАДЗЯН АБ НАЛІЧЭННІ ЧЭКАЎ «МАЁМАСЦЬ».***

○ **ПРЭЗІДЭНТАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДРАМ ЛУКАШЭНКАМ ПАДПІСАНА РАСПАРАДЖЭННЕ АБ ЧАСОПІСЕ «БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА».** У адпаведнасці з распараджэннем заснавальнікам часопіса стала Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і само выданне будзе выходзіць аб'ёмам 20 друкаваных лістоў і 12 нумароў у год. Дай Бог, каб Прэзідэнт падтрымоўваў так не толькі «Беларускую думку», а ўсю беларускамоўную перыёдыку.

○ ***ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!*** *1 снежня заканчваецца падпіска на перыядычныя выданні на першае паўгоддзе 1996 года. На «Наша слова» можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні. Нагадваем, што кошт падпіскі на «НС» складае на адзін месяц — 3250 рублёў, на тры месяцы — 9750 рублёў, на шэсць месяцаў — 19500 рублёў. Індэкс 63865.*



2 лістапада на Беларусі святкавалі Дзяды. У той дзень у Курапатах людзі маліліся і палілі свечкі.
**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.**

*(Працяг фотарэпартажу на стар. 8.)*



## Згуртаванню беларусаў свету «Бацькаўшчына» — 5 гадоў

11—12 лістапада г.г. у менскім Доме літаратара адбылася сустрэча кіраўнікоў беларускіх суполак у замежжы, якія падсумавалі вынікі дзейнасці ЗБС «Бацькаўшчына» за мінулыя 5 гадоў. На сустрэчу з'ехаліся прадстаўнікі беларускай дыяспары сапраўды з усяго свету. Былі запрошаны і госці ад дзяржаўных і грамадскіх установаў, у тым ліку запрашэнні былі пасланыя ў Адміністрацыю Прэзідэнта, ураду, аднак, як канстатаваў прэзідэнт ЗБС «Бацькаўшчына» акадэмік і віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Радзім Гарэцкі, запрошаныя ад урадавых структур госці на сустрэчу не з'явіліся.

У зале прысутнічалі выдатныя паэты і пісьменнікі Беларусі Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Сяргей Грахоўскі, Іван Чыгрынаў, Васіль Зуёнак, Вольга Іпатава і іншыя, шэраг вядомых вучоных, мастакоў, грамадскіх дзеячаў, журналісты дэмакратычных беларускіх выданняў.

Прагучала падзяка тым, хто матэрыяльна падтрымаў сустрэчу (спонсарам): фірмам «Дайнова», «Надзея» і «Касавіца», беларусам з Кліўленда (ЗША), Янку Язвіловічу з Англіі, Беларускаму універсітэту культуры і Інстытуту праблем культуры, Дому літаратара.

Даклад «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»: пройдзены шлях і перспектывы дзейнасці» зрабіла старшыня Рады ЗБС Ганна Сурмач.

Было багата цікавых выступленняў. На другі дзень працаваў «круглы стол» па набалелых пытаннях: сучасныя праблемы беларускай дыяспары; вяртанне беларусаў на Радзіму; выкананне дзяржаўнай праграмы «Беларусы ў свеце»; арганізацыя дзейнасці беларускіх суполак за мяжой і іншыя.

Адбылася прэс-канферэнцыя.

Падрабязная справаздача будзе надрукавана ў наступным нумары газеты.

**Ірына КРЭНЬ.**

*Рэха*

## «Руская мова сур'ёзна хворая»

Гутарка ідзе, канешне, пра мову расійскую, бо «руская» — гэта, як пагаджаюцца многія сур'ёзныя даследчыкі, прадмет гісторыі і даволі далёкай. А весткі пра хваробу расійскай мовы распаўсюдзіла Расійскае інфармацыйнае агенцтва (РІА) «Новости». Наколькі сітуацыя ўспрымаецца сур'ёзна, сведчыць хаця б тое, што на яе звярнуў увагу ўрад Расіі, пры якім нават створана спецыяльная камісія, яна будзе займацца ў далейшым зацвярджэннем нормаў мовы. Пра гэта паведаміў журналістам намеснік дырэктара Інстытута рускай мовы доктар філалагічных навук Я.Шыраеў. Ён таксама выступіў на пасяджэнні «Общества любителей российской словесности» (звернем увагу, што не «русской») з дакладам пра сучасны стан «русского языка». Па ягоных жа словах, акрамя створанай спецыяльнай камісіі, на стале ў прэзідэнта Барыса Ельцына ляжыць яшчэ і праект спецыяльнага Указа аб стварэнні таксама пры прэзідэнце Расіі службы мовы, куды ўведзены вядучыя вучоныя-лінгвісты і дзеячы культуры.

На думку док. Шыраева, гэта ўсё выклікана тым, што расійская мова, нягледзячы на тое, што па-ранейшаму застаецца адной з багацейшых у свеце, падвяргаецца, як кожны жывы арганізм, «пэўнага кшталту сур'ёзным захворванням». Вучоны прыводзіў прыклады масавага наваднення мовы, асабліва афіцыйнай, ярлыкамі і штампамі, неапраўданага павелічэння замежных перайманняў, якія вядуць нават «да згубы нацыянальнай самасвядомасці расіян», не кажучы пра тое, што людзі пачынаюць горш разумець адзін аднаго.

Але калі ўжо ў самой Расіі загаварылі на самым высокім узроўні пра сур'ёзную хваробу мовы, хаця яна па-ранейшаму пастаянна падпітваецца там з такой магутнай крыніцы, як вёска і малыя гарадымястэчкі, адкуль заўсёды пераважна і выходзілі самыя адметныя майстры мастацкага слова, нацыянальныя пісьменнікі і паэты, то што казаць тады пра спажыўцоў расійскай мовы на Беларусі? Расійская мова ў нас не мае і не будзе мець такіх крыніц, а тыя, хто ёю карыстаецца, засвойваюць яе дзе папала і як каму пашанцуе, але ў асноўным ад чыноўнікаў і прышлага расійскага люду ці пасля службы ў арміі, прыхопліваючы тое-сёе ад расійскіх сродкаў масавай інфармацыі. Такім чынам, жывой, сапраўды народнай крыніцы сілкавання расійскай мовы ў нас няма ўвогуле, і таму яна ў Беларусі не проста «сур'ёзна хворая», а хутчэй папросту мёртвая. Але менавіта яе, вось такую, усялякімі сродкамі цяперашняе вышэйшае кіраўніцтва навязвае не толькі даросламу насельніцтву — тут няхай ужо кожны выбірае, як яму зручней, — а бездапаможным дзецям, школьніцтву. Таму ўжо калі ў Расіі ажно на ўзроўні прэзідэнцкіх службаў занепакоіліся, што іхняя «хворая мова» разбурае нацыянальную самасвядомасць людзей, то што зноў жа казаць пра нас. Але нацыянальна неакрэсленая асоба нават у якасці рабочай сілы, да чаго толькі, здаецца, і рыхтуе беларусаў ягонае начальства, — тавар не самага лепшага гатунку.

**Ул.Ас.**



7 лістапада яны прыйшлі на плошчу Незалежнасці (такога дазволу ад улады не атрымліваў яшчэ ніхто!), каб адзначыць гадавіну Кастрычніцкага ўзброенага бальшавіцкага перавароту (так назваў яго Ленін), потым перайменаванага ў сацыялістычную рэвалюцыю. Гэта ў пераважнасці пенсіянеры. Прыхапілі з сабой хто партрэт Леніна, а хто і Сталіна, хто сцяг эсэраўскі, а хто і чырвоназялёны, а таксама і чыста чырвоны і крочаць па першаму снегу. Маякоўскі некалі напісаў пра бальшавікоў — ідуць «з Леніным у галаве і з наганам у руцэ». Нават дзіўна ўбачыць сярод стракацення бальшавіцкіх «звышінтэрнацыянальных» лозунгаў па-расійску таксама заклік: «Няхай жыве Савецкая Беларусь!» Патрабуюць «адрадзіць СССР»... У каго патрабуюць? У сваіх правадыроў, якія гэтую краіну і давялі да банкруцтва і развалу?

Ідуць... назад, практычна ў нікуды. А варта было б — да царквы, каб пакаяцца перад Богам і людзьмі за тое, што нарабілі бальшавікі за доўгія гады свайго бязмежнага панавання — за масавыя забойствы і здзекі з мільёнаў людзей.

І было б іх проста шкада, бо гэта ж нашы суайчыннікі, толькі састарэлыя, каб сваімі дзеяннямі яны не цягнулі ў нікуды і галечу сваіх жа дзяцей і ўнукаў.

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БелТА.**

# *Алег Трусаў:* Кожны павінен адчуваць сябе грамадзянінам



**— Алег Анатольевіч, прадстаўляць Вас чытачам не трэба, сваёй грамадска-палітычнай дзейнасцю за апошнія гады Вы набылі ў Беларусі значную вядомасць. Скажыце, а не бывае шкада іншым разам, што Вы столькі сіл і энергіі патрацілі на справы тлумныя і не заўсёды да таго ж удзячныя? Пры Вашай падрыхтоўцы і разумовых здольнасцях Вы даўно б ужо абаранілі доктарскую дысертацыю і чыталі б лекцыі дзенебудзь у новай Заходняй Еўропе ці Злучаных Штатах.**

— Не так выхаваны, прабачце. Вялікі рускі паэт Някрасаў яшчэ калі сказаў, што ў першую чаргу трэба быць грамадзянінам. Гэта абавязак кожнага сумленнага чалавека. Мне здавалася, што я буду карысны працоўным людзям, калі стану дэпутатам Вярхоўнага Савета, вось і пайшоў у гэты тлум, як Вы кажаце. Канешне, іншым разам бывае горка на душы, але зусім не ад таго, што не атрымаў вучоную ступень доктара і не чытаю лекцыі ў Сарбоне ці Оксфардзе. Дарэчы, у нас і свае універсітэты не горшыя, гэта цяпер прызнаецца і на Захадзе, а вось дзяржаўныя парадкі, заканадаўства трэба ўдасканальваць і тэрмінова, пакуль народ канчаткова не ператварыўся ў жабракоў і парабкаў.

**— Таму Вы і балатуецеся зноў у Вярхоўны Савет?**

— Вялікая колькасць маіх ранейшых выбаршчыкаў, а таксама сябры Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, да якой я належу, выказалі такое пажаданне, а сам адчуваю, што набыў некаторы вопыт дэпутацтва, які гатовы скарыстаць для добрай справы.

**— Адначасова Вы з'яўляецеся актывістам Таварыства беларускай мовы, на з'ездзе Вас аднадушна абралі ў склад Рэспубліканскай рады, ходзяць чуткі, што на бліжэйшым яе пасяджэнні Вам прапануюць стаць намеснікам старшыні. На якое месца вы паставілі б сваю працу тут? Дарэчы, абсалютна бясплатную, але ж вельмі цяжкую і зноў жа не заўсёды ўдзячную?**

— І гэта на першае месца. Я тут абсалютна згодзен са Старшынёй Вярхоўнага Савета Мечыславам Грыбам, якога, дарэчы, зноў абралі дэпутатам з першага ж заходу, што без сваяой мовы — не можа быць народа, не будзе і добрай дзяржавы. Усё ўзаемапавязана — дабрабыт народа і яго мова, культура.

**— Усім вядома, што вы вельмі актыўна працавалі ў Камісіі Вярхоўнага Савета па культуры і адукацыі, прымалі непасрэдны ўдзел у распрацоўцы законаў аб адукацыі, культуры, ахове гісторыка-культурнай спадчыны, аб архівах, бібліятэках, а таксама па забеспячэнні ветэранаў, інвалідаў. Памятаецца, як ухвальна ставіліся людзі да Вашых прапаноў аб невыкарыстанні Беларускага войска ў крывавых канфліктах, аб справядлівым раздзеле агульнасаюзнай маёмасці.**

— Я і ў прыняцці іншых законаў прымаў актыўны ўдзел, калі меў што канкрэтнае ды добрае для людзей прапанаваць. Тут, дарэчы, мне вельмі дапамагалі мае выбаршчыкі, з якімі я пастаянна раіўся.

**— Вось пра што я і хацеў спытаць: Вы пастаянна сустракаліся са сваімі выбаршчыкамі і як знаходзілі для гэтага час пры сваёй звышзагружанасці?**

— А я лічу, што гэта найпершы абавязак дэпутата — сустракацца са сваімі выбаршчыкамі. Усе пяць год я рэгулярна праводзіў прыём выбаршчыкаў па сваёй акрузе і ўвогуле ў Савецкім райвыканкаме. Гэта не лічачы, што за пяць гадоў да мяне звярнуліся больш 10-ці тысяч выбаршчыкаў з усіх куткоў Беларусі. Ну, як можна было адмовіць, калі людзі на мяне спадзяваліся. І шмат каму мне ўдалося дапамагчы. З якімі толькі справамі ні даводзілася разбірацца! І як яшчэ ў нас неабароненыя людзі ад самадурства чыноўніцтва ды ад рознага кшталту прыхватызатараў народнага дабра.

**— Жадаю поспехаў, Алег Анатольевіч, у Вашым высакародным змаганні за справядлівасць. Здароўя Вам.**

**Распытваў Ул.АСІНАВЕЦ.**

*Яўген ЦУМАРАЎ,*
*сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ*

# А слова жыве!



Карыкатурна выглядаюць спробы запаволіць працэс нацыянальна-культурнага адраджэння Радзімы некаторых вышэйшых чыноўнікаў краіны і разам з тым адрадзіць т.зв. «славянскае адзінства», «панславізм», «православие и державность». Усё больш грамадзян Беларусі ўсведамляе, што гэтыя асобы ўяўляюць сабою, кажучы «их же речением», «временщиков». Хаця шкода ад іх разбуранай дзейнасці немалая.

Бадай ці не самы масіраваны наступ на беларускую мову пачаўся ў галіне нацыянальнай адукацыі. Ні пра якое парытэтнае развіццё беларускай і расійскай моў у школьнай справе ўжо гаварыць не даводзіцца. Шляхам падману, запалохвання, стварэння штучных перашкод несумленныя работнікі органаў дзяржаўнага кіравання ў сістэме адукацыі, а нярэдка і самі педагагічныя работнікі імкнуцца не толькі зменшыць набор вучняў у першыя беларускія класы, але і ўвогуле ліквідаваць іх.

Параўнаем працэнтны склад беларускамоўных вучняў 1—4 класаў па гораду Менску ў бягучым і мінулым навучальных гадах.

У першыя беларускамоўныя класы сёлета набрана толькі 18,9 працэнтаў, у мінулым годзе — больш за 54 працэнты ад агульнага складу. Адпаведна па другіх класах: 34,7 і 55 працэнтаў. Па 3-х класах: 42,6 і 48 працэнтаў. Па 4-х класах: 37,1 (учарашнія трэція) і 20 (цяперашнія пятыя) працэнтаў. Трэба ўлічыць, што, напрыклад, мінулагоднія другія класы — гэта сёлетнія трэція. І вось маем: толькі ў другіх беларускіх класах (учарашніх першых!) па Менску зменшылася доля вучняў з 54 да 34,7 працэнта ад агульнага складу. Па абласцях стан яшчэ горшы. Па Брэсцкай вобласці ў першых беларускіх класах у мінулым годзе навучалася каля 80 прцэнтаў вучняў, то ў цяперашнім толькі 37,3 працэнта. Па Гродзенскай адпаведна — каля 80 і 77,2 працэнта. Па Менскай вобласці (без уліку сталіцы) — каля 90 і 70,8 працэнта. Па Віцебскай вобласці — каля 70 і 29,2 працэнта. Па Гомельскай — каля 80 і 21 працэнт. Па Магілёўскай — 75 працэнтаў у мінулым годзе (па стану на цяперашні звестак у Мінадукацыі няма).

Спецыялісты адзначаюць, дарэчы, што наносіцца глыбокая псіхалагічная траўма тысячам нашых маленькіх суграмадзян, якія вымушаны на самым пачатку актыўнага авалодання навыкамі чытання і пісьма мяняць моўнае асяроддзе. Калі называць рэчы сваімі імёнамі, то тых, хто распачаў крыжовы паход супраць беларускай нацыянальнай школы, трэба называць не інакш як злачынцамі, а за парушэнне дзейнага заканадаўства, этычных норм і псіхолага-педагагічных прынцыпаў — прыцягваць да адказнасці.

Дзякуючы дзейнасці Рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы, а таксама Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, у склад якой уваходзяць прыхільнікі беларускага слова, у краіне значна пашыраны прававы калідор на шляху да нацыянальна-культурнага адраджэння Бацькаўшчыны. Акрамя распрацоўкі і прыняцця шэрагу заканадаўчых актаў у рэчышчы пашырэння беларускай мовы ў грамадска-дзяржаўным ужытку краіны, створаны такія дзяржаўныя структуры, як Тапанімічная камісія пры Прэзідыуме ВС, Дзяржаўная камісія па ўдасканаленні правапісу беларускай літаратурнай мовы, Дзяржаўная камісія па кантролі за ажыццяўленнем Закона аб мовах (пры Акадэміі навук Беларусі). Некалькі дзесяткаў дакументаў, прынятых на з'ездах, рэспубліканскіх канферэнцыях і іншых форумах Таварыства, атрымалі шырокі розгалас у грамадстве. Бадай, няма ніводнай галіны грамадска-дзяржаўнага жыцця, якая аказалася б абыдзенай увагай у заявах, зваротах, пастановах ТБМ, якія дзякуючы дзейнасці СМІ даведзены да ведама шырокай грамадскасці краіны. Такім чынам, за апошнія гады ўдалося змяніць у лепшы для беларускай мовы бок стан грамадскай думкі. Адзінкавыя, арганізаваныя лютымі ворагамі беларускага слова і, відавочна, беларускай дзяржаўнасці акцыі пратэсту супраць пашырэння нацыянальнай мовы ў грамадска-дзяржаўным ужытку не былі падтрыманы пераважнай большасцю грамадзян краіны.

Аднак у сувязі з захопам чынавенствам, настроеным супраць беларушчыны, большасці СМІ і пранікненнем у склад усяго дзяржапарату на вядучыя пасады гэтай пыхлівай і некультурнай антыбеларускай меншасці, а таксама грубым парушэннем моўнага заканадаўства беларуская мова паступова здае свае пазіцыі ва ўсіх без выключэння галінах грамадска-дзяржаўнага жыцця. У гэтых умовах толькі супольную працу ўсіх прыхільнікаў беларускага слова, патрыятычных сіл краіны можна супрацьпаставіць гэтым разбуральным тэндэнцыям.

Нельга не верыць, што прыйдзе зорны час беларускага слова. Не марамі, не спадзяваннямі, а руплівай працай на карысць адраджэння кожны прыхільнік беларускага слова можа наблізіць прыход гэтага часу. Шасцігадовая дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, пры ўсіх хібах і прыкрых праліках, — гэта рух крок за крокам па сцяжыне Беларускага Адраджэння. І нягледзячы на высілкі тых, каму імя — чужынцы, не па крыві, а па адносінах да народа, да матчынай мовы — Беларускае Слова жыве! Бо жыве Беларусь!



# Каардынацыйны камітэт абароны беларускай мовы дзейнічае

Пасяджэнні Рэспубліканскага Грамадскага каардынацыйнага камітэта абароны беларускай мовы — справы разглядаюцца палітычныя: як, дзе і хто адносіцца да нашага родага слова, чым дапамагае ці, наадварот, шкодзіць яму.

Тут не прамаўляюцца палкія філіпікі — ідзе спакойная гаворка, сэнс якой — выпрацоўка мер, канкрэтных спраў, скіраваных на выручку беларускай мовы. Звычайна ўдзельнікі пасяджэнняў разглядаюць «балючыя» моманты з сённяшняга існавання беларушчыны.

Зразумела, цяпер усё самае балючае — у школе. Там топчуцца па роднаму слову, там, нібыта мімаходзь, парушаюць чалавечыя правы беларускамоўных дзяцей ды бацькоў. Методыка шавіністычна настроеных адміністратараў школ ды настаўнікаў, хаця і прымітыўная, даволі знаёмая: калі большасць татак-матуляў выбралі ўласным дзеткам для навучання расійскую мову, значыць, носьбіты мовы народа, што засталіся ў меншасці, павінны падпарадкавацца большасці. Права вета адсутнічае.

У адной школе сябры Каардынацыйнага камітэта нават знайшлі ўзор бацькоўскай заявы, напісанай, між іншым, вельмі хітра, хаця, на першы позірк, не без дэмакратычнасці. Мяркуйце самі: «Прошу зачислить моего ребенка Иванова Витю в 1-й класс с русским (белорусским) языком обучения».

Думаем, чытачы заўважылі: ужо адно тое, што ўзор распрацаваны па-расійску, настройвае на пэўны выбар. А слова «белорусским», узятае ў дужкі, толькі ўзмацняе падсвядомае пачуццё наконт другаснасці беларускай мовы ў нашым жыцці, у неабавязковасці грамадзян ведаць беларускую мову. А калі побач з вамі настаўнік ці дырэктар школы гаворыць пра тое, што «белорусский язык неперспективен», што «в средних классах не будет белорусских учебников», што «в вузах обучение ведется только по-русски», то робіцца зразумелым, якую мову хутчэй возьмуць у спадарожнікі на доўгія гады вучобы бацькі сваім крывінкам. Асабліва, калі ўлічыць істэрыю, развязаную славянафільскімі палітыкамі ды іхнімі апекунамі вакол моўнага пытання на працягу апошніх шасці месяцаў.

Што ж можна і трэба супрацьпаставіць гэтай шалёнай прапагандзе расіізацыі?

Зразумела, што контрпрапаганду.

На адным з пасяджэнняў Каардынацыйнага камітэта шчыры патрыёт беларушчыны Мікола Купава, чый талент мастака-графіка вядомы ў краіне, падзяліўся тым вопытам, які ён мае ў гэтай справе. Напрыклад, ён бярэ хатнія адрасы бацькоў вучняў, а потым абыходзіць дамы, дзе тыя жывуць. У паштовыя скрынкі спадар Купава раскладае ўлёткі са Зваротам камітэта да грамадзян аб сітуацыі ў грамадстве з родным словам, што склалася пасля сумна знакамітага рэферэндуму. Тыя з бацькоў, каторыя азнаёміліся з улёткамі, зрабілі свой выбар на карысць беларускай мовы навучання дзецьмі.

Ёсць і такі вопыт. Некаторыя з сяброў камітэта наведваюць бацькоўскія сходы ў школах. Такія сходы — паўнаважкая двухбаковая сувязь. Адзін з аўтараў гэтага артыкула разам з выкладчыцай Беларускай політэхакадэміі спадарыняй Сухой і дэпутатам ВС спадаром Крыжаноўскім напачатку верасня наведалі бацькоўскі сход у 211-й школе сталіцы. Вучоная прынесла беларускамоўныя падручнікі па матэматыцы, слоўнікі па фізіцы — таксама беларускамоўныя. Бацькам таксама быў прачытаны верш Багдановіча «Народ, беларускі народ...» Ім было сказана: вы — перад выбарам — пакінуць дзецям душу народа, мову або адабраць яе ў дзяцей? А дэпутат Крыжаноўскі «падкінуў» бацькам такі прыклад: ёсць расійскае слова «сентябрь», пазычанае з лацінскай мовы, і ёсць слова наша, роднае — «верасень». Няўжо ніхто не адчувае, якая духмянасць, якое хараство сыходзіць з «верасня»? Якая паэзія і разам дакладнасць!

Узрушыліся людзі і многія зрабілі правільны выбар.

Так, мова стала аб'ектам палітыкі. Але гэта не наш выбар. Гэта — вайна, развязаная супраць беларускай нацыі расійскімі і нацыянальнымі нігілістамі. Нядаўна цэлы беларускі клас дзяцей сышоў з урока фізікі, бо ў настаўніцы хапіла розуму аб'явіць, каб тыя ўзялі ў бібліятэцы расійскамоўныя падручнікі: маўляў, цяпер фізіка будзе выкладацца па-расійску.

Прыўнясенне палітыкі ў «моўныя» праблемы за іншым разам даходзіць да прыкрасці. Так, у СШ № 19 сталіцы, што носіць імя беларускага народнага песняра Янкі Купалы, настаўнікі разаслалі бацькам запіскі, якія, акрамя абуральнага зместу, уражваюць яшчэ і непісьменнасцю, бескультур'ем.

«Уважаемые родители! Просьба 5.09 принести заявления о переводе на русскоязычное обучение...»

У верасні ўсё саўковае славянафільства ад сістэмы народнай адукацыі распачало новы этап «школьнага рэферэндуму» — у Менску ды іншых месцах краіны заўважаны спробы шавіністаў перавесці вучняў 5—8 класаў на вывучэнне «натуральных» прадметаў у расійскамоўным варыянце...

* * *

Каардынацыйнаму камітэту вельмі складана адстойваць беларускую мову. Не хапае пакуль сілы. А яшчэ патрэбна майстэрства кантактавання ў дыпламатычным стылі і з прадстаўнікамі розных міністэрстваў, і з бацькамі, і з педагогамі, і з дзецьмі.

І ўсё ж робіць гэта грамадскае ўтварэнне нямала: ратуюцца ад шавіністычнага засілля цэлыя класы і школы, пераконваюцца бацькі, вядуцца перамовы з міністрамі, інфармуецца праз самыя разнастайныя каналы сувязі і сродкі масавай інфармацыі грамадскасць Еўропы і цывілізаванага сусветнага супольніцтва пра становішча роднага слова карэннай нацыі ў Беларусі. Над гэтым задумалася нават такая «інтэрнацыяналісцкая» сіла, як Беларуская камуністычная партыя, дзе раздаюцца галасы ў абарону беларускай мовы.

І вось самая апошняя справа, за якую ўзяўся камітэт, — стварэнне ды сталяванне Таварыства беларускай школы.

Будзем спадзявацца, што гэта грамадская арганізацыя яшчэ паслужыць адраджэнню беларушчыны наогул і беларускай мовы ў прыватнасці. Загляне сонца і ў наша аконца!

**Рагнеда АЛЯХНОВІЧ, каардынатар Рэспубліканскага Грамадскага каардынацыйнага камітэта абароны беларускай мовы.**
**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА, сябра праўлення Беларускай асацыяцыі журналістаў.**

Таварыства беларускай школы

# Шляхам этызацыі, шляхам ачалавечвання

Пытанне стварэння Таварыства беларускай школы не толькі наспела ўжо ў нашым грамадстве, але і, можна сказаць, пераспела. Гэта паказалі падзеі апошніх месяцаў, калі наступ на першыя парасткі нацыянальнай адукацыі, праведзены антыбеларускімі сіламі, не сустрэў дастаткова моцнага і арганізаванага супрацьдзеяння, і беларуская школа адчула страты. Такога не адбылося б, калі б тыя парасткі былі падмацаваныя шырокім рухам знізу. Гэтыя падзеі сведчаць, што ідэя нацыянальнай школы яшчэ не пусціла трывалых карэнняў у нашым грамадстве.

Але нацыянальная сістэма адукацыі — гэта не часовая мода, на якую можа ўплываць палітычная кан'юнктура. Яе існаванне непарыўна звязанае з самім існаваннем дзяржавы, народа. Таму яна павінна быць пастаянным клопатам грамадства, усіх яго свядомых, патрыятычных сіл. І ўвасабленнем такога клопату паўстае арганізацыя, якая будзе гуртаваць вакол ідэі нацыянальнай школы гэтыя свядомыя сілы, весці планамерную, сістэматычную і настойлівую работу на яе карысць.

Стварэнне ці, больш дакладна, аднаўленне ў нашай краіне Таварыства беларускай школы знаходзіцца на стадыі ўтварэння нізавых структур. Прайшлі ўжо шмат дзе раённыя ўстаноўчыя сходы, адбыўся такі сход і ў Фрунзенскім раёне г.Менска. У ліку прысутных былі бацькі вучняў беларускамоўных класаў, школьныя настаўнікі, работнікі дашкольных устаноў, выкладчыкі сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў, пенсіянеры. Удзельнікамі сходу былі такія вядомыя ў Беларусі людзі, як прафесар Мікалай Крукоўскі, вучоны і грамадскі дзеяч, прафесар Аляксей Рагуля, старшы рэдактар выдавецтва «Народная асвета», паэт і публіцыст Яўген Гучок, народны дэпутат Мікалай Крыжаноўскі. Большасць жа тых, хто адгукнуўся на запрашэнне аргкамітэта і прыйшоў на сход, былі людзі новыя, і гэта абнадзейвае. Хочацца верыць, што створаная арганізацыя будзе прыцягваць да актыўнай грамадскай дзейнасці ўсё новых людзей, патрыётаў Беларусі, заклапочаных яе лёсам. Сярод іх разам з бацькамі і работнікамі ўсіх узроўняў адукацыі павінны быць шырокія колы інтэлігенцыі, вядомыя аўтарытэтныя людзі. Так нам бачыцца гэта арганізацыя.

Таварыства беларускай школы (ТБШ) існавала як масавая (30 тыс. сяброў, 500 суполак) культурна-асветніцкая арганізацыя ў міжваенны час у Заходняй Беларусі. Да яго стварэння і дзейнасці прычыніліся такія вядомыя людзі, як Рыгор Шырма, Браніслаў Тарашкевіч, Ігнат Дварчанін, Вінцук Грышкевіч, Сяргей Паўловіч, Радаслаў Астроўскі. ТБШ бараніла і стварала беларускія школы, гімназіі, рыхтавала праграмы, падручнікі, займалася культурніцкай працай на вёсках. З гісторыяй гэтай заходнебеларускай арганізацыі пазнаёміла прысутных сп. Рагнеда Аляхновіч (дарэчы, дачка Вінцука Грышкевіча), старшыня Аргкамітэта па стварэнні Фрунзенскай раённай арганізацыі ТБШ. Яна пазначыла галоўныя напрамкі дзейнасці створанага Таварыства — дзіцячыя садкі, школа, ВНУ. Плануецца наладжваць кантакты з настаўнікамі, бацькамі, навукоўцамі, праводзіць разнастайную культурна-асветніцкую працу.

Запрошаны на сход прадстаўнік ужо створанага ТБШ Кастрычніцкага раёна г.Менска сп.Іван Антанюк падзяліўся вопытам з прысутнымі. Ён адзначыў, што ў іх раёне значна большую актыўнасць праявілі дырэктары і настаўнікі беларускамоўных школ, узначаліла раённую раду дырэктар школы № 89 Вера Саладуха. Намаганнямі энтузіястаў ужо сёння былі ўратаваныя многія беларускія класы, у раёне захаваліся амаль усе беларускамоўныя школы (акрамя СШ № 1). Людзі набылі ўжо пэўны вопыт барацьбы за беларускую школу, раскрылі механізмы, пры дапамозе якіх дзейнічаюць антыбеларускія сілы, здолелі паставіць заслоны перад ўсялякага кшталту падманам.

Вялася на сходзе гаворка пра стан беларускай мовы ў дзіцячых садках, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах. Выступоўцы падкрэслівалі, што найлепшае становішча было і застаецца там, дзе працуюць нацыянальна свядомыя людзі, — там беларускія школы і садкі цалкам захаваліся, там справа робіцца не фармальна, а з душой. Пра гэта, у прыватнасці, гаварыла загадчыца дзіцячага садка № 187 Таццяна Манюк. На ўсіх нас сёння, падкрэсліла яна, ляжыць адказны, асабліва цяпер, у часе рэакцыі, абавязак — быць носьбітамі, захавальнікамі, абаронцамі і прапагандыстамі роднага беларускага слова, усюды і заўсёды несці яго да людзей.

Прафесар Аляксей Рагуля згадаў у сваім выступе выказванне вядомага тэолага, філосафа і ўрача А.Швейцэра пра тое, што **крызіс у грамадстве пераадольваецца шляхам «этызацыі» — гуманізацыі, «ачалавечвання» насельніцтва праз сістэму выхавання і адукацыі.** Менавіта такім шляхам павінна пайсці наша адукацыя, выкарыстоўваючы гуманістычны змест багатай беларускай культуры. Досыць выхоўваць маргіналаў «тутэйшых» рэнегатаў. Неабходна браць пад кантроль змест гуманітарнай падрыхтоўкі ў цэлым, ведаць, як вядуцца ў сістэме адукацыі гуманітарныя, мастацтвазнаўчыя прадметы, як апрацоўваецца дзіцячая псіхіка ў школе.

Спадзявацца на спрыянне нацыянальнай адукацыі цяперашняга кіраўніцтва не даводзіцца. Трэба клікаць у ТБШ людзей, якія маюць сродкі і хочуць працаваць дзеля будучыні, а таксама наладжваць сувязі на больш высокім узроўні. Была згаданая ініцыятыва стварыць у кожным раёне па 2—3 беларускія школы, выкарыстаўшы дапамогу Фонду Сораса.

Ідэю стварэння пры ТБШ інтэлектуальнага цэнтра, выказаную спадаром Яўгенам Гучком, падтрымаў прафесар Мікалай Крукоўскі, які чытае ў Беларускім універсітэце культуры курс эстэтыкі. Ён пазнаёміў прысутных з уласным вопытам выкладання на беларускай мове. Да 1991 года прафесар Крукоўскі выкладаў у Беларускім дзяржаўным універсітэце, але тамтэйшаму кіраўніцтву прыйшлося недаспадобы, што вядомы вучоны, аўтар некалькіх фундаментальных кніг па эстэтыцы аказаўся яшчэ і патрыётам Беларусі і стаў чытаць свой курс на роднай мове. У выніку ідэалагічнага і маральнага ўціску прафесар вымушаны быў змяніць месца працы. Беларускі універсітэт культуры ён называе выспай беларушчыны сярод усіх айчынных ВНУ. А трэба адзначыць, і пра гэта вялася размова на сходзе, на сённяшні дзень зрусіфікаванасць вышэйшай школы з'яўляецца самай балючай і цяжкавырашальнай праблемай у нашай краіне, бо гэта і пытанне кадравае, і пытанне перспектывы ды прэстыжу беларускай мовы ў сістэме адукацыі. Пакуль вышэйшая школа застаецца расійскамоўнай, беларускім школам і класам наканавана быць рэзервацыямі. Прафесар Крукоўскі выказаў цікавую думку пра тое, што нават расійскую культуру мы можам і павінны зрабіць нашым саюзнікам, памочнікам у справе выхавання дэмакратычных поглядаў ды нацыянальнай свядомасці, паколькі ўся расійская культура накіравана супраць вялікадзяржаўя, імперыі, супраць двухгаловага арла. Стваральнікі расійскай культуры былі за нацыянальную Расію, а не за імперскую, пра што сведчаць іх творы.

Выступоўцамі было выказана яшчэ шмат цікавых думак і прапаноў, пра стварэнне падручнікаў, рэфармаванне правапісу, наладжванне семінараў ды пра змест і формы работы Таварыства.

Вынікам устаноўчага сходу стала ўтварэнне раённай арганізацыі ТБШ Фрунзенскага раёна. Былі абраныя рада і кіраўніцтва. Старшынёй Фрунзенскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай школы абрана сп. Рагнеда Аляхновіч.

**Святлана БАГДАНКЕВІЧ.**

Да ўвагі настаўнікаў

*«Настаўніцкая газета» распачала серыю публікацый па гісторыі Беларусі, у тым ліку культуры, якія практычна павінны стаць асноўнымі, «накіроўваючымі» для выкладчыкаў і замяніць нібыта «кепскія» і «скажоныя» падручнікі па грамадазнаўству перабудовачнага часу. Такім чынам зноў у галовы дзяцей вышэйшае начальства (а «Настаўніцкая газета» — гэта орган і рупар Міністэрства адукацыі) настойліва спрабуе з дапамогай настаўнікаў убіваць уяўленне, быццам без Расіі Беларусь была б дзікай нецывілізаванай краінай, быццам бы місіянеры з Масквы накшталт генерала-карніка Мураўёва, а затым бальшавіцкіх камісараў прынеслі нам культуру і адукацыю. «Прынеслі», вядома, але ўзамен якой і дзеля якіх мэт? Па ўсім бачна, такім чынам, што настаўніцтва зноў уцягваюць у палітыку, прычым антыбеларускую, а значыць, надзвычай шкодную для выжывання беларусаў як самастойнай нацыі. У гэтых абставінах усе сумленныя настаўнікі, якія хочуць дабра свайму народу, каб не садзейнічаць духоўнаму калецтву школьнікаў, павінны, па меншай меры, хаця б звяртаць увагу сваіх выхаванцаў на іншыя, «неафіцыйныя» публікацыі па гісторыі і культуры беларусаў у дэмакратычных выданнях, каб вучні мелі магчымасць (і ўвогуле напрацоўвалі здольнасці) супастаўляць розныя тэксты, развівалі сваё самастойнае аналітычнае мысленне.*

*Ул.Ас.*

# Азія ў «цэнтры Еўропы»

У нас любяць падкрэсліваць геаграфічнае становішча Беларусі — маўляў, у самым цэнтры еўрапейскага кантынента. І сапраўды, нашым лахтырам (гандлярам) да варшаўскіх кірмашоў значна бліжэй, чым іх маскоўскім калегам. Паўз нашыя вёскі равуць еўрапейскія трайлеры: у Расію і назад. І нафтавая труба «ост-вэст» праз нас ідзе.

Вядома, беларусы — спадкаемцы даўніх еўрапейскіх традыцый: талерантнасці, магдэбургскага права і самакіравання, нарэшце, цэхавых і гільдзейскіх. Толькі вось растрацілі мы ўсё гэта, заходняе. У апошнія два стагоддзі наша краіна, на жаль, была моцна «арыенталізаваная». «Спадчынай татаршчыны» названа Пушкіным расійскае самадзяржаўе. Атрымалася, што беларусы, якія адбіліся ў XIII ст. ад ардынскага ярма, атрымалі яго ў «сабраным» выглядзе ў канцы XVIII стагоддзя, падпаўшы пасля падзелаў Рэчы Паспалітай пад уладу «хана» — імператара, «баскакаў» — губернатараў, «сарбазаў» — паліцыянтаў і г.д. А тое, што Сталін быў больш усходнім дэспатам, чым заходнім дзяржаўцам — відавочна.




Дзяржаўныя латыфундыі, што паўсюдна насаджаліся ў сталінскай імперыі, — калгасы — аднатыпныя нават не бразільскім, карыбскім альбо віргінскім рабаўладальніцкім плантацыям. Плантацыйныя гаспадаркі, дзе пры адсутнасці машын у такой якасці выкарыстоўваліся чорныя браты ў Хрысце, з'яўляліся зусім капіталістычнымі, арыентаванымі на рынак, таварнымі вытворчасцямі. З канкрэтным уласнікам на чале, які б мог у любы момант прадаць, закласці плантацыю, збанкрутаваць. Альбо адпусціць сваіх рабоў на волю. Савецкая ж дзяржава, ператварыўшы амаль усё вясковае насельніцтва імперыі ў дзяржаўных, а не асабіста-ўладальніцкіх прыгонных, пазбавіла іх «пашпартоў» і практыкавала вольнаадпушчэнства толькі ў выглядзе выключэння. Калі месапатамскага селяніна, храмавага ці дзяржаўнага, прадавалі ў рабства за даўгі, дык калгаснік мог стаць зэкам-работом толькі за адно неасцярожнае слова.

Закон калгаса: «Хлеб — Радзіме» прадугледжваў нешта накшталт абавязкова-рэгулярнага ахвяра-прынашэння. Калгасніка не каралі пальмавымі кіямі, але ён рабіў жа за «палачкі»... Карміў увесь апарат жрацоў парткамуністычнага культу, ажно да самога жывога «бога», які, паводле Ф.Іскандэра, на сваіх дачных «Валтасаровых балях» ні ў чым сабе не адмаўляў. Бяздоннае чэрава мільёнагорлага монстра і было на практыцы славутымі «засекамі Радзімы».

На Гарадзеншчыне калгасы часам мянуюць, па адпаведнасці, «Шлях да торбы». І сусветная практыка — ад кітайскай камуны да кубінскага кааператыва — падобнае пацвярджае. Савецкім спецам, што выбіраліся на трапічную Кубу з яе райскім кліматам, даводзілася прыхопліваць мех цыбулі. Сацыялізм ёсць, але цыбулі няма... Падаўленне дробнага ўласніка, «сацыялізацыя» сельскай гаспадаркі паўсюль прыводзіла да яе застою і заняпаду. Пра якія поспехі калгаснага ладу ў СССР можна гаварыць, калі штогод гэтая вялізная дзяржава купляла зерне за нафтадолары? Дзяржава-спадкаемца Расійскай імперыі, буйнейшага экспарцёра пшаніцы, масла, сала, воўны і г. д. Калі яшчэ не было ўвозу зерня — практыкавалі «галадаморы». Выграбалі прыхаванае, г.зн. здзяйснялі тое ж самае, што й старажытнаазіяцкія зборшчыкі падаткаў, праўда без удараў бамбукам па пятах.

Нізкая вытворчасць патрабуе вялізных выдаткаў працы. Іх здзяйсненне — адпаведны адміністрацыйны апарат. Гіпертрафаванае развіццё бюракратыі — рыса, уласцівая і Усходу далёкай мінуўшчыны, і нашай сённяшняй вёсцы. Поўная «кантора» паноў, што не занятыя непасрэдна вытворчай працай. Гэткіх ва Узбекістане называюць «раіс». Раіс перакладаецца ўвогуле як «начальнік», але раісам лічыўся таксама й шафёр славутага Адылава. Раіс — чалавек пры ўладзе, з «абоймы». Колькі іх круціцца па нашых раённых арбітах — раз трапіў, ужо не выпадзеш, хоць лазняй, але будзеш загадваць. І народ паважае, слухае, маўляў, так начальнік сказаў (за каго галасаваць на выбарах, прыкладам). Атрымваецца, што наша вёска рэгулярна робіць акурат як узбекская махалля.

Патрыярхальнасць мыслення старэйшага пакалення беларусаў зусім відавочная. Лічыцца ідэалам, калі малодшыя слухаюцца старэйшых, дзеці падначальваюцца волі бацькоў. Адносіны ўнутры дваровай гаспадаркі аднаўляюцца на іншых узроўнях — калгаса, раёна і г.д. Акурат і ў Азіі кіраўнік успрымаецца як усеагульны «бацька», яскравейшае сведчанне чаго — прыклад Туркменбашы. Адзін з запаветаў Канфуцыя гэтак і дыктуе без усякіх хітрыкаў: «Дзяржаўнік — бацька сваіх падданых». Гэтыя «дзеці» абавязаныя ніякім чынам не выходзіць з-пад волі «бацькі», які, як прынята лічыць, «усё бачыць і ўсё ведае». Бацька народаў — гэты тытул Іосіф Вісарыёнавіч «прысабечыў» зусім не выпадкова.

Мабыць, некаторыя з беларуска-азіяцкіх паралеляў абумоўленыя генетычна. Іншыя маюць канвергентны характар. Як бы там ні было, улада мінуўшчыны, асабліва над пакаленнем ветэранаў, у нас дужа вялікая. Палітычная практыка паказвае, што выкарыстанне ўсёй гэтай азіятчыны цяпер яшчэ здольнае прыносіць істотныя дывідэнды. Іншая справа, што перспектывы тут адсутнічаюць.

...Ударнік кампрацы, які, адараўшы змену, па чорна-белай «скрынцы» глядзіць праграму «Час» — такі, даруйце, «ідэал» моладзі не падсунеш. Ведаюць — шмат хто асабіста — як жывуць вольныя людзі ў вольных краінах. Лад жыцця, варты чалавека, выключае наяўнасць «раісаў» рознай масці і калібраў, дыктату «махалля» над асабістым выбарам і пашанай да іх «жрацоў». Не дарэмна ж верныя ленінцы так ненавідзяць усю «заходнюю заразу».

Вядома ж, традыцыйна савецкія асновы ў нашым грамадстве можна законсерваваць на дастаткова доўгі тэрмін. Але не абысці нам шляху, пройдзенага шмат кім, тымі ж туркамі, да прыкладу. Натоўп з глыбіні Малой Азіі памкнуўся на захад, пажылі, падвучыліся і, пры вяртанні, Азію ж і рэфармавалі. А мы ўсё-ткі — у цэнтры Еўропы!

**Яраслаў РАЗАНІН, гісторык.**

(Передрук з газеты «Грамадзянін», № 3, 1995. Пераклад з расійскай мовы.)

Наш каляндар

# Слуцкі збройны чын

*(Працяг. Пачатак у № 45.)*

У воласцях і вёсках Случчыны ствараліся Беларускія Нацыянальныя Камітэты, наладжвалася самаабарона. Рада Случчыны арганізоўвала рэгулярныя вайсковыя беларускія аддзелы, пашыраючы атрады народнай міліцыі. Калі бальшавікі наблізіліся да Слуцка, было вырашана пакінуць горад. Галоўнае вайсковае беларускае камандаванне, створанае пры Радзе Случчыны, загадала вайсковым аддзелам і народнай міліцыі выйсці з Слуцка і накіроўвацца ў Семежава, дзе сабралася каля 10 000 паўстанцаў. Там быў створаны Слуцкі полк на чале з палкоўнікам Гаўрыловічам, які, хоць і не меў дастаткова зброі і амуніцыі, пачаў змагацца з бальшавікамі. У Семежаве паўстаў і другі беларускі Грозаўскі полк — пераважна з моладзі мястэчка Грозава — пад камандаваннем капітана Семянюка. З Слуцкага і Грозаўскага палкоў стварылася першая Слуцкая дывізія, камандаваць якой даручылі капітану Анцыповічу, а пасля — капітану Сокал-Кутылоўскаму.

**27 лістапада 1920 года першая беларуская дывізія пайшла ў бой за родную Беларусь.** Біліся каля вёсак Быстрыца, Верабейчыцаў, Васільчыцаў, Чарнагубава, Васілішак, Лютавіч, Мацкевічаў, каля мястэчак Капыля, Цімкавічаў, Вызны. Паўстанцам удавалася не толькі спыніць наступ бальшавікоў, але і адбіваць занятыя тымі вёскі і мястэчкі. Прыкладам, былі вызваленыя ад бальшавікоў Цімкавічы. Чырвонаармейцы на заклік Рады Случчыны, якая звярталася да іх з палымянымі адозвамі, здаваліся ў палон або пераходзілі ў шэрагі паўстанцаў. Тады бальшавіцкае камандаванне кінула супраць паўстанцаў атрады, складзеныя пераважна з прадстаўнікоў азіяцкіх народаў.

Беларускія паўстанцы, не маючы належнае колькасці зброі і амуніцыі, мусілі адступаць да ракі Лань.

*(Заканчэнне будзе.)*

ЗГАДКІ

*Пра Сяргея Хмару (Сіняка, 1905—1992) за апошнія гады напісана шмат. Паэт, дзеяч беларускага вызвольнага руху, журналіст... Свае лепшыя гады жыцця ён правёў у польскіх, бальшавіцкіх і нямецкіх турмах. Не шкадуючы сябе, Хмара змагаўся супраць акупантаў у партызанскіх атрадах, у легальных і падпольных беларускіх арганізацыях. Прапануем чытачам «Нашага слова» ўспаміны Сяргея Хмары, напісаныя ім на чужыне. Яны вельмі актуальныя сёння. Ці не прыйдзецца нам ісці па шляху нашых дзядоў?..*

*Сяргей ХМАРА*

# У БАРАЦЬБЕ ЗА РОДНУЮ МОВУ

У канцы 1924 года і пачатку 25-га, калі нашая збройная партызанка пачала занепадаць і пакрысе самаліквідавацца, вырасла перад намі — маладым актывам тадышняй вёскі, як, прыстасаваўшыся да існуючых абставін польскае акупацыі, прадаўжаць далейшую барацьбу за правы беларускага народа. , за ягоную культуру, мову. Пастанавілі перадусім узяцца за беларускія школы... Віленскае Таварыства беларускае школы не мела дазволу дзейнасці на Наваградскае ваяводства, але ў Радашковічах было заложана сенатарам Уласавым другое Таварыства з правам дзейнасці на Наваградскае ваяводства. Быў я з лёгкай рукі пасла да Сойму Рака-Міхайлоўскага сябрам ТБШ у Вільні, а цераз дзядзьку Гальяша Леўчыка — сябрам ТБШ у Радашковічах і прадстаўніком гэтага таварыства на Слонімшчыну. Падрыхтавалі мы пункты на 12 беларускіх прыватных школах і падалі праз Радашковіцкае ТБШ просьбы аб дазволе на адкрыццё гэтых школаў. Нягледзячы, што мінула каля трох месяцаў, ад уладаў ніякіх адказаў не было. Тады мы пастанавілі адкрыць школы яўным парадкам, не чакаючы дазволу. Рабілася гэта так: староста вёскі, а дзе староста быў не свой, дык і без яго, збіраў сельскі сход, які афіцыяльна пастанаўляў з упісаннем да пратаколу адкрыць у вёсцы беларускую школу, вызначаючы адпаведнага настаўніка ды плату яму збожжам ад вучня. Вынаймавана прасторнейшую хату на «школу», і навука адразу пачыналася. У канцы 1924 і пачатку 1925 года былі адчынены такім чынам беларускія школы: у в.Лядзіны — настаўніца Марыя Белавус, у Савічах — І.Дожын, у Прудах — Н.Капітончышка, у Накрыжках — Вера Катрач, у Азарычах — Марыя Шундрык, у Хамічах — Я.Кухта, у Сяткоўшчыне — Касцюшка, у Драбавічах — І.Гародка, у Задвор'і — А.Тарасюк, у Петралевічах — Марыя Пятліцкая, у Погірах — І.Бяленка (паэт — Н.Жальба) і ў Малым Угрыне — К.Ломжык.

Захопленыя неспадзявана здарэннямі польскія ўлады не ведалі, што рабіць. Урадавыя польскія школы апусцелі. Абвясцілі толькі кары на вучняў за нез'яўленне ў польскія ўрадавыя школы 5 злотых за кожны дзень (тады пуд жыта каштаваў — 2 злотых, а работнік на вёсцы атрымоўваў ад 50 грошаў да аднаго злотага за дзень). Кара не памагала, дзеці ў польскія школы не вярнуліся. Тады прыблізна праз месяц, у адзін дзень, атрады паліцыі наехалі вёскі. Арыштавана ўсіх настаўнікаў па абвінавачванні ў «нелегальным навучанні», некаторых старастаў за арганізаванне «нелегальных» вясковых сходаў і прыняццё «антыдзяржаўных» пастановаў. Арыштавалі і мяне і абвінавацілі як галоўнага арганізатара гэтых 12-ці «нелегальных» школаў. Пры гэтым забралі пры вобыску ўсе паперы ТБШ, якога я быў мясцовым паўнамоцнікам і інструктарам. Мяне стрэшэнна збіта ў Слонімскай дэфензыве, перабіўшы мне вушную балонку. Сяляне далей не пушчалі дзяцей у польскія школы. Тады ў вёскі былі пасланыя сэквэстратары (каморнікі), якія прабавалі забіраць у сялян за школьныя кары — кароў, кажухі. Сяляне Лядзін, Сяткоўшчыны і іншых вёсак сустрэлі каморнікаў каламі і не дапусцілі да заняцця дабра. Тады ў Лядзіны з'явілася з каморнікамі не толькі паліцыя, але і аддзел войска і сілай пазабірана ў сялян іхнае дабро. Розгалас падзеяў не толькі скалануў усю ваколіцу, але і адгукнуўся ў Сойме спецыяльнай спешнай інтэрпаляцыяй Беларускіх паслоў, да якіх далучылася і «Лявіца», сялянскае «Вызваленне», ППС і іншыя.

Настаўнікаў і мяне звольнена, пакінена толькі настаўніц Марыю Белавус і Марыю Шундрык па абвінавачанні ў публічных падбухторваннях сялян да збройнага супраціву. Марыя Шундрык па выхадзе з турмы хутка памёрла ад сухотаў. (Марыя Пятліцкая ўцякла ад арышту ў Савецкі Саюз, дзе пасля згінула падчас сталінскіх расправаў).

Нягледзячы на ўсё гэтае, барацьба за нашую школу працягвалася. Замест афіцыяльна было адкрытых і пасля зачыненых палякамі гэтых 12 школаў, у некаторых вёсках былі закладзеныя ўжо і ўзапраўдзі нелегальныя школы, якія існавалі некаторы час у Дуброўшчыне, Малдавічах, Мураванцы і Хамічах. Да гэтага дайшло нелегальнае навучанне беларускае мовы ў польскіх школах у Лявонавічах, Колках і Мідзвінавічах дзякам праваслаўнай царквы ў Казлоўшчыне, які, маючы універсітэцкую асвету, дабіўся выкладання Закона Божага для праваслаўных у гэтых школах, але замест выкладаць па-польску ці расійску, не толькі выкладаў рэлігію па-беларуску і з беларускіх падручнікаў, але вучыў па беларускіх падручніках беларускай мове. Калі гэтае выкрыта — Аляксіевіча арыштавана і пасля дана наказ выдалення не толькі з Казлоўшчыны, але і з Польшчы. Сам Аляксіевіч быў з паходжання украінцам, але, сутыкнуўшыся з намі, поўнасцю ўліўся ў нашую барацьбу за родную мову ў школе і царкве, бо трэба адцеміць, што ў 1925 годзе мы патрапілі першыя ў Зах.Беларусі збеларусізаваць і беларускую праваслаўную царкву ў Казлоўшчыне, дабіўшыся вызначэнне туды на настаяцеля былога слуцкага паўстанца — камандзіра Слуцкае брыгады «Сокал» — Кутылоўскага.

Разгарнуўшы акцыю складання дэкларацыяў на беларускія ўрадовыя школы, Слонімшчына злажыла такіх дэкларацыяў на 23 школы, ня гледзячы на паліцыйны тэрор і застрашванння, ды шантаж рознымі карамі. Аднак палякі школаў не далі. Адчынілі толькі адну, гэтак званую «утраквістычную», польска-беларускую школу ў Востраве. Дарэчы, падчас успомненай акцыі адкрыцця 12-ці школ, па другі бок Слоніма такой жа акцыяй закладання беларускіх школаў ТБШ кіраваў Максім Бурсэвіч, стаўшы настаўнікам у Чамярах і заклаўшы яшчэ пару іншых школаў (Рудаўка, Азярніца).

Тады ўласне, седзячы ў турме, напісаў я верш, які часта потым дэкламаваўся на вёсках:

Гаворку родную майго
народу
Ня вырваць вам із нашых
душ!
Не зьянычарыць вам
Дажбогаву пароду
З Наднёманскіх, Палескіх
пушч!
Яна, што век перажывала
Прыгону панскія і царскія
нажы...
Устаіць і перад новаю
навалай...
І будзе жыць! І будзе жыць!
Гаворка родная радзімае
старонкі,
Гаворка любая каханых
мацярок,
Бацькоў, дзядоў, дзятвы
кліч звонкі,
Не здрадзім мы! Даём зарок!

**Публікацыя Сяргея ДУДАЛІЧА.**

Векапомнае

# Мастак падпісвае карціны: «Граф Чыкер-Агінскі»

Неяк на адной з рэспубліканскіх выставаў у Менскім Палацы мастацтваў мне кінуўся на вочы нацюрморт з рэльефна ды падрабязна выпісанымі крамянымі яблыкамі. Карціна была цудоўная. Але не меней уражваў і аўтарскі подпіс пад ёю — «граф Чыкер-Агінскі».

Я ведаў, што абодва прозвішчы маюць славутых заснавальнікаў. Таму і вырашыў пазнаёміцца з мастаком. Ім быў мянчук з густой ссівелай чупрынай, высакароднымі рысамі твару, хударлявы. На левым баку пінжака месцілася даволі шырокая ордэнская планка.

Адказваючы пра сваё паходжанне, ён растлумачыў:

— Я — адзін з нашчадкаў роду Агінскіх і яшчэ аднаго знакамітага беларускага роду — Кунцэвічаў. Гэта — па матчынай лініі. Мой дзед Іван Фёдаравіч меў прозвішча Кунцэвіч-Агінскі. Але прозвішча майго бацькі — Чыкер. Гэта ўжо славуты шляхецкі род нямецкага паходжання, які з часоў Пятра І служыў расійскім манархам. Мой дзядзька Уладзімір Чыкер, віцэ-адмірал, у гады апошняй вайны ратаваў савецкі флот на Ладажскім возеры. А мая малая радзіма — Гомельшчына, маёнтак дзеда ў Рудні Кашалёўскай. Падчас калектывізацыі родавае гняздо было разбурана і знішчана, а дзеда спачатку выслалі на Салаўкі, затым — у Сібір. З прычыны майго непралетарскага паходжання мяне не прымалі ў піянеры, у члены КПСС і Саюз мастакоў, хаця ў мяне ёсць добрыя работы. Праўда, ваяваць супраць фашыстаў у партызанах і на фронце дазволілі... У 1969 годзе я паражыў непрыемны момант — той-сёй хацеў «прышыць» дысідэнцтва і вытурыць за мяжу, дзе жывуць мае родзічы (іх шмат у Польшчы і Францыі). Але ветэраны вайны заступіліся.





І тыя, каму належыць, разабраліся, што мае продкі-шляхцічы заўсёды змагаліся супраць ворагаў, за Беларусь, Польшчу і Расію.

Жыве Ігар Аляксандравіч Чыкер у Менску на праспекце Газеты «Праўда», хаця яго ў жыцці больш за ўсё крыўдзілі людзі, якія чыталі менавіта «Праўду».

Зараз ён, сустракаючы 250-годдзе Тадэвуша Касцюшкі, якому верай і праўдай служыў продак Ігара Аляксандравіча — Міхал Клеафас Агінскі, працуе над партрэтам прапрапрапрадзеда.

**Алесь СЕРГІЕВІЧ.**

**На здымках Віктара Ставера:** Ветэран вайны, мастак **Ігар Чыкер-Агінскі**, яго карціна «Сож пад Гомелем».

*Беларускае замежжа*

# «Czasopis» № 10

Як звыкла, нумар адкрывае падборка цытат з польскіх і беларускіх выданняў — выказванняў журналістаў, палітыкаў, дзеячаў культуры, якія датычаць самых надзённых праблем Беларусі і Польшчы. «Палітыка Лукашэнкі можа стаць узорам для ворагаў дэмакратыі ў іншых краінах, асабліва ў Расіі, дзе хапае прыхільнікаў дыктатуры. Таму рэсаветызацыя Беларусі, нашага суседа, ёсць благім знакам для свету і для Польшчы», — сцвярджае ў сваім артыкуле Адам Міхнік — у часы камуністычнай улады палітычны вязень, а цяпер — рэдактар найбольш папулярнай у Польшчы «Газэты выборчэй». Сваё бачанне сітуацыі ў нашым краі прадстаўляе і «Газэта польска»: «Прэзідэнт Беларусі абгрунтоўвае палітыку рэбальшавізацыі свайго краю неабходнасцю змагання з тымі, якія «прапагандуюць нацыяналізм, русафобію і ўзмацняюць канфрантацыю ў грамадстве».

Рэаліям нашага жыцця прысвечаная яшчэ адна інфармацыя — здымак бел-чырвона-белага сцяга над марскім караблём, які суправаджаецца наступным тэкстам: «Гістарычная нацыянальная сімволіка ў Рэспубліцы Беларусь паступова знікае. Бел-чырвона-белыя сцягі можна яшчэ ўбачыць у час выступлення беларускіх спартоўцаў на міжнародных спаборніцтвах, арганізатары якіх не абавязаныя мяняць сімволіку з прычыны незацвярджэння парламентам вынікаў травеньскага рэферэндуму. Падобнае відовішча — беларускі нацыянальны сцяг на траўлеры «Гайдук» у Ахоцкім моры — цяпер ужо рэдкасць».

Але праблемы палітыкі — не галоўная тэма публікацый штомесячніка. Так, рубрыка «Мінуў месяц» сярод іншага паведамляе аб адкрыцці ў Варшаўскім цэнтры ўсходніх даследаванняў выставы фотаздымкаў Марка Зюлкоўскага — польскага консула ў Менску, — зробленых ім у Беларусі.

Змешчаны пад рубрыкай «Грамадства» артыкул «Праваслаўныя ў мяшаных сужонствах» знаёміць чытачоў-палякаў з традыцыямі праваслаўя — канфесіі, да якой належаць пераважна беларусы, — звязанымі з шлюбам.

Суіснаванне дзвюх канфесій, двух народаў, суседства дзвюх дзяржаў — рэаліі жыцця Беласточчыны. Разгляду звязаных з імі праблем прысвечаны наступныя артыкулы. «Спор аб пушчы» гаворыць аб пытанні, актуальным для мноства жыхароў польскай часткі Белавежскай пушчы — які статус мусіць мець гэты рэгіён і ў якой ступені павінны суадносіцца ў ім абарона прыроды і гаспадарчая дзейнасць?

Эканамічная занядбанасць Беласточчыны дала ёй адну перавагу. Тут, у адрозненне ад больш развітых рэгіёнаў Польшчы, у сваім першасным выглядзе захаваліся народныя традыцыі, звычаі, забабоны. Апісанню рэштак традыцый вядзьмарства прысвечаны артыкул Дароты Сульжык «Сем шпілек ведзьмы».

Аўтары дзвюх наступных публікацый — «БАС» адшуканы» і «Беларусы ў Польшчы пасля 1989 года» — даследуюць і апісваюць жыццё беларускіх грамадскіх арганізацый, створаных у Польшчы ў 80-я гады і раней, — Беларускага грамадска-культурнага таварыства ды Беларускага аб'яднання студэнтаў, а таксама іх месца ў жыцці грамадства.

Наступны артыкул — «Віктар Швед — сведка эпохі» — расказвае аб лёсе і творчасці гэтага вядомага літаратара, кнігі якога і сапраўды адлюстравалі цэлую эпоху ў жыцці беларусаў Польшчы.

Малыя Азяраны — гісторыя гэтай вёскі, заснаванай у 1524 годзе, падаецца ў апошняй рубрыцы нумара — «Хроніка мясцовасці».

**У.П.**

*Мікалай КРЫЎКО — беларушчына.*
*Алена ШЧУКА — англійшчына.*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

1. **ПІСА́ЦЬ** (пры дапамозе графічных знакаў перадаваць на чым-н. словы, тэкст і пад.) *Дзядзя Косця сядзеў за сталом і нешта пісаў* (Шчарбатаў), **СТРАЧЫ́ЦЬ** разм. (пісаць хутка, паспешна) *Пытаюць анкеты: калі я і дзе нарадзіўся? Калі я вучыўся? І з кім і калі ажаніўся?.. І строчым адказы... Старанна!..* (Кірэенка), **ШПА́РЫЦЬ** разм., узмацняльнае *Такія пісьмы ракруткам шпарыць, што і пісар не дакажа* (Якімовіч), **КАТА́ЦЦЬ** разм., узмацн. *Катаць ліст сябру. Катаць скаргі,* **СМАЛІ́ЦЬ** разм., узмацн. *[Крайко:] — Пра другое, думаецца, там гаворка пойдзе. Відаць, Дзямешка дакладную насмаліў* (Савіцкі), **САДЗІ́ЦЬ** разм., узмацн. *[Міхась:] — Адзін дружбак у мяне быў. Яго жонка двойчы аліментны ліст прысылала, і па ўсіх інстанцыях — пісьмы садзіць* (Савіцкі), **БУ́ХАЦЬ** разм., узмацн. *[Бялькевіч:] — А што калі ўзяць ды бухнуць ліст у райком? Няхай тамка падумаюць ды не пускаюць Забіча нікуды* (Савіцкі), **ЧЫРКАЦЬ** разм. (пісаць хутка, спяшаючыся) *Старшыня маўчаў, нешта чыркаў асадкай на паперцы* (Галавач), **КРЭ́МЗАЦЬ** і **КРЭ́МСАЦЬ** разм. (пісаць неахайна, невыразна, няўмела або хутка) *Я крэмзаў крэйдай на сцяне свае праекты* (Хомчанка). *Крэмсаць даносы,* **КРАМСА́ЦЬ** і **КРАМЗА́ЦЬ** разм. *Што ты тут крамсаеш (крамзаеш) у сшытку? Накрамсаць (накрамзаць) заяву,* **КРАМЗО́ЛІЦЬ** разм., узмацн. *Пакуль ён [Яўген] быў малы, бацька вельмі не прыглядаўся, што там крамзоліць дзіця* (Сабаленка), **КРЭ́СЛІЦЬ** разм. (пісаць неахайна, абы-як, неразборліва або хутка) — *Ці не раіўся Антось з табою, перш чым праклямацыю крэсліць? — ускіпела Алаіза* (Арабей). **ДРА́ПАЦЬ** разм. (пісаць дрэнна, неразборліва або няўмела) *Сцёпка напісаў і гэта. — Гатова, — сказаў ён. Надрапаў, як курыца лапай* (Хомчанка), **ПЭ́ЦКАЦЬ** разм. пагард. (пісаць неахайна) *Калі Алік пэцкаў на паперы паслюненым алоўкам якія крывулякі, — маці падхоплівала тую паперку і бегла паказваць іншым* (Быкаў), **МА́ЗАЦЬ** разм., пагард. (пісаць неахайна, непрыгожа, няўмела) *Закарузлыя, крывыя пальцы, папаленыя ў кузні, лягчэй малатком па жалезу б'юць, чымся пяром паперы мажуць* (Бядуля), **ШЛЁПАЦЬ** разм., пагард. (пісаць неахайна, абы-як, не прыкладваючы старання) *І цяпер пісаў бы, шлёпаў, Змайстраваў бы пук паклёпаў, Ды бяда, закрыты попыт На даносы і паклёпы* («Вожык») — *Зак.:* **Напіса́ць, настрачы́ць, нашпа́рыць, наката́ць і катану́ць, насмалі́ць, насадзі́ць, набу́хаць і бу́хнуць, начы́ркаць, чыркну́ць і чыркану́ць, накрэ́мзаць і накрэмсаць, крамзануць і крамсану́ць, накрамсаць і накрамза́ць, накрамзо́ліць, накрэсліць, надра́паць, напэ́цкаць, нама́заць, нашлёпаць і шлёпнуць.**

1. **Пісаць.**

У якасці адпаведнікаў гэтага адметна пашыранага беларускага сінанімічнага раду ў англійскай мове можна прывесці таксама некалькі адзінак. Узначальвае рад агульнаўжывальны і нейтральны дзеяслоў **write** 'пісаць'. Такая ж пара дзеясловаў як **scribble** і **scrawl** больш адпавядаюць бел. *крэмзаць, чыркаць.* А яшчэ адну адзінку — **dash off** можна параўнаць з бел. *шпарыць.*

2. **ПІСА́ЦЬ** (ствараць мастацкі, навуковы, музычны і пад. твор) *Праменны: Ты сапраўды пішаш гэту камедыю ці толькі дурышся?* (Крапіва), **СКЛАДА́ЦЬ** і **СКЛА́ДВАЦЬ** (пераважна ў адносінах да вершаў, песень і пад.) *Гора складае свае калыханкі — Сумныя песні пра чорны прыгон* (Танк). *Ды дзіўная ўсё ж дзяўчына: Песні складвае сама, а да песень — малайчына, — Ну, ёй роўных тут няма* (Колас), **ШПА́РЫЦЬ** размоўнае, узмацняльнае *У такім прыўзнятым настроі ён [Лоўгач] нашпарыў восем старонак і, калі перабраўся на дзевятую, зразумеў, што артыкул гатовы* (Савіцкі), **СМАЛІ́ЦЬ** разм., узмацн. *[Зося:] — Цікава дзядзька. Ох, напіша ён пра цябе! Я ведаю: доўгія карэспандэнты заўсёды доўгія артыкулы смаляць* (Савіцкі), **НАКАТА́ЦЬ** разм., узмацн. (у незаконченым трыванні не ўжываецца) *[Сёмка:] — І газета добра ідзе. Такі верш накатаў я, што толькі прыслухайся, — ух, ёмкі верш!* (Каваль), **ЦЯГНУ́ЦЬ** разм., неадабральнае (пісаць доўгі, вялікі твор) *Эпапеіст спіць спакойна ўначы, А ўдзень, як мярэжы, Цягне раманы* (Барадулін), **КЕ́РПАЦЬ** разм., іранічнае і пагардлівае (дрэнна, няўмела пісаць які-н. мастацкі твор) *Керпаць апавяданні,* **КРЭ́МЗАЦЬ** і **КРЭ́МСАЦЬ** разм., іран, і пагард. *Сяк-так накрэмзаў і аддаў у друк. І хоць заган у ёй [п'есе] было нямала — Усё сышло Мацею з рук* (Валасевіч), **КРЭМСА́ЦЬ** і **КРАМЗА́ЦЬ** разм., іран. і пагард. *Крамсаць (крамзаць) вершыкі,* **КРАМЗО́ЛІЦЬ** разм., іран. і пагард. *І вось, залёгшы ў твань, у халадок, Карпеў [люстраны карп], крамзоліў [раман] за радком радок...* (Валасевіч), **ПЭ́ЦКАЦЬ** разм., пагард. (пісаць што-н. невысокай якасці) *Пэцкаць нізкапробныя п'ескі,* **МА́ЗАЦЬ** разм., пагард. *Мазаць апавяданнікі. — Зак.:* **Напіса́ць, скла́сці і зла́жыць, нашпа́рыць, насмалі́ць, наката́ць, нakéрпаць, накрэ́мзаць і накрэ́мсаць, накрамса́ць і накрамзаць, накрамзо́ліць, напэ́цкаць, нама́заць.**

2. **Пісаць.**

Адпаведнікам бел. **пісаць** у гэтым сэнсе з'яўляецца ў першую чаргу зноў-такі **write**. Да яго трэба дадаць дзеяслоў **compose**, які набліжаны да бел. *складаць* не толькі семантычна, але і структурна: англ. прэфікс **com-** функцыянальна адпавядае бел. прыстаўцы **с-**, а каранёвая марфема паходзіць ад лац. **ponere** 'класці'.

***Гісторыя моваў на Беларусі***

*Уладзімір СВЯЖЫНСКІ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Беларуская мова

*(Працяг.)*

*«Малакваліфікаваная, але спрытная ля начальства Люцыя Антонаўна ўмела жыць. Яна была адным з першых **лагерных прыдуркаў**, як называлі адміністрацыю лагера са зняволеных».*

**Ларыса Геніюш. Споведзь.**

## У вузкім коле хаўруснікаў
### *(Сацыяльныя дыялекты)*

Такім чынам, толькі ў ГУЛАГу з яго маштабамі і жорсткасцю рэжыму і былі «ідэальныя» ўмовы для фарміравання ў асяроддзі вязняў спецыфічнага сродку камунікацыі. У выніку разгортвання ў канцы 20-х — першай пал. 30-х гадоў на Беларусі барацьбы з нацыянал-дэмакратызмам і рэпрэсій канца 30-х гадоў у ГУЛАГаўскіх лагерах заўсёды было шмат беларусаў, таму беларуская мова таксама можа прэтэндаваць на «моўнакультурную спадчыну» «архіпелага», тым больш што разглядаемы жаргон ужываецца і сёння ў месцах зняволення на тэрыторыі рэспублікі. Натуральна, пазнаёміцца з асаблівасцямі разглядаемага сродку зносінаў можна ад тых, хто пабываў у месцах яго функцыяніравання. Але былыя вязні, спазнаўшы жахі сталінскіх засценкаў і не адчуваючы спагады з боку збальшавізаванага, запалоханага рэпрэсіямі грамадства, звычайна адыходзілі ва ўнутраную эміграцыю, лічачы за лепшае маўчаць аб тым, што з імі было, каб яно хаця б не паўтарылася. Ва ўмовах панавання камуністычнай цэнзуры ўспаміны і іншыя творы на лагерную тэматыку не маглі быць выдадзенымі. Толькі з надыходам эпохі дэмакратызацыі і галоснасці нашыя «вялікія маўчуны» — былыя вязні ГУЛАГа сталі адкрыта, уголас гаварыць аб злачынствах сталінізму, сталі выходзіць у свет іх творы — Ларысы Геніюш, Францішка Аляхновіча, Сяргея Новіка-Пеюна, Сяргея Грахоўскага. Так з'явілася магчымасць для азнаямлення з лагерным жаргонам.

Трэба сказаць, што жаргон зняволеных зазнаў на сабе моцнае ўздзеянне сацыяльнага дыялекта другой групы грамадства — **крымінальнікаў або «блатных»**. Яно і зразумела, бо «перасяленне» ў «зону» — заканамерны працяг іх «дзейнасці» на волі. У сталінскіх лагерах крымінальнікі наўмысна ўтрымліваліся разам з палітзняволенымі. Тым самым узмацнялася ўздзеянне на асобу палітычнага вязня з мэтай яе падаўлення, знішчэння ў ёй усялякай волі да пратэсту супраць таталітарызму. Ніжэй прыводзяцца элементы жаргону зняволеных, выкарыстаныя Ларысай Геніюш у яе «Споведзі».

**Баланда** турэмная поліўка: Ізаляцыя, гдзе даваласся вада, 200 грамаў хлеба ў суткі, на трэці дзень місачка баланды й рэшту па столькі ж хлеба ў суткі.

**Блатныя** злодзеі, крымінальнікі, якія вядуць жыццё па зладзейскаму закону: казаў аб бясплодным, цяжкім прабыванні ў бытавых лагерох з блатнымі, гдзе не было магчымасці ніякай палітпрацы...

**БУР** барак узмоцненага рэжыму, унутрылагерная турма: Забіралі, што папала, а калі трапляліся запісачкі ці малітоўныя абразкі і т.п., дык БУР ужо забяспечаны. Бур — гэта вязьніца ў самым лагеры.

**Бытавы лагер** лагер для асуджаных па крымінальнаму артыкулу: казаў аб бясплодным, цяжкім прабыванні ў бытавых лагерох з блатнымі...

**Зона** тэрыторыя лагера: Гэта быў сталы кантынгент людзей, якія ніколі не хадзілі за зону, а толькі часам мяняліся...

**Зэк** зняволены: Відавочна, не адна зьмена зэкаў загінула на Інце, магільнік быў разьлеглы.

**Кашаед**, пагардл. Паслухмяны, пасіўны зняволены, які скарыўся свайму лёсу: Трэба было падымаць крыху кашаедаў, каб думалі.

**Опер** оперупаўнаважаны; чэкіст, які сочыць за нестроем і намерамі зняволеных, загадвае стукацтвам і лагернымі следчымі справамі: Мяне выклікае страшны, дурны опер. **«К каму пісаная гэтая запіска, каму?»** — «Ня мне, — кажу, — але аба мне!»

**Пайка** сутачная норма хлеба для зняволенага, звычайна ад 450 да 650 грамаў: Пэўна, далі яму ў цяжкі час большую пайку ці дазволілі напісаць дамоў.

**Прыдурак лагерны** прадстаўнік адміністрацыі лагера з ліку зняволеных (гл. эпіграф артыкула).

**Сухарыкі** турма: Ён сказаў ёй, што гэта самая небясьпечная птушка ва ўсім лагеры, якой ён прыгразіў «сухарыкамі» (вязьніцай) і радзіць ёй прыціхнуць...

**Шманаць** рабіць вобыск: Мала, што шманалі нас, выводзячы за зону й зноў у яе пускаючы (што часам было падобна на гінекалагічны агляд на марозе), але пэрыядычна й звыш нормы шманалі нас у бараках.

Акрамя таго, прыводзім асобныя, найбольш цікавыя лагерныя выразы, ужытыя ў творах іншых аўтараў. Паколькі вывучаемы жаргон — вусная форма існавання мовы, то факт ужывання іх вязнямі-беларусамі ў сваім маўленні, у выніку чаго яны рабіліся фактамі беларускай мовы, можна сцвярджаць з пэўнай доляй верагоднасці. Гэта словы накшталт **вагонка** (цяслярскае прыстасаванне для спання чацвярых зняволеных у два паверхі), **вохра** (лагерная паўваенізаваная ахова), **вышка** (вышэйшая мера пакарання, расстрэл), **закасіць** (прысвоіць хітрым спосабам, утаіць ад кантролю і ўліку порцыю яды, прадмет адзення, не адпрацаваць рабочага дня), **заначка** (месца схову і самое дзеянне хавання), **іграць на раялі** (здымаць адбіткі пальцаў), **кантавацца** (адбываючы тэрмін, старацца не працаваць), **катушка** (поўны тэрмін), **кандзей** (карцар), **кум** (тое, што і опер, гл. вышэй), **лішэнец** (пазбаўлены выбарчых правоў), **паханы** (правадыры блатных), **паліт** (палітзняволены), **намордні**к (турэмнае нааконнае прыстасаванне, якое загароджвае від з акна), **прапускнік** (бесканвойны зняволены), **сідар** (мяшок з прадуктамі), **тухта** (тое, чаго насамрэч няма, выдуманы аб'ём работ), **філоніць** (тое, што і кантавацца — адвільваць ад працы), **цынга** (падвешаны кавалак рэйкі для падачы сігналаў), **на цырлах** (на дыбачках), **чарнуха** (хлусня) і г.д.

*Павал СЦЯЦКО*

***Культура мовы***

## Трымацца закона гармоніі гукаў

Закон гармоніі гукаў **вымагае ўнікнення збегу галосных у межах адной марфемы** (кораня). Яму падлягаюць у беларускай мове і іншамоўныя словы. Гэтую адмысловасць нашай мовы добра засведчыў акадэмічны «Русско-белорусский словарь» пад рэдакцыяй Якуба Коласа, Кандрата Крапівы і Пятра Глебкі (М., 1953). У ім бачым: «**Ион** физ. **іён**, род. **іёна** м.; **ионийцы** ист. **іянійцы**, -цаў; **ионизатор** физ. **іянізатар**, -ра м.: **ионизационный** — **іянізацыйны**; **ионизация** фіз., мед. **іянізацыя**, -цыі, ж.; **ионизировать** несов. физ., мед. **іянізаваць**; **ионизироваться** страд. **іянізавацца**; **ионийский** — **іянійскі**; **Ионические** острова — **Іянічныя** астравы, **Ионическое** море — **Іянічнае** мора; **Иония** ист. **Іёнія**; **ионный** — **іённы**... (с. 183); **адажио** муж. 1. нареч. **адажыё**; 2. сущ. **адажыё** нескл., ср. (с. 15); **сольфеджио** муз. **сальфеджыё** нескл., ср. (с. 645); **трио** в разн. знач. **трыё** нескл., ср.; струнное трио — струннае трыё; а таксама: **триод — трыёд, триолет — трыялет, триоль — трыёль** (с. 697).

Але падчас «актыўнай барацьбы за камунізм» — зліцця нацыяў, іх культуры і мовы — гэтая адметнасць беларускай мовы была парушана. Так, у «Беларуска-рускім слоўніку» пад рэдакцыяй Кандрата Крапівы (М., 1962) ужо чытаем: іанізаваны — ионизированный, іанізавацца — ионизироваться, іанізатар — ионизатор, іон — ион, іонны — ионный (с. 361), адажыо — адажио (с. 48); трыо — трио (с. 927). Але: трыёд — триод; трыялет — триолет, трыяда — триада (с. 926—927). Як бачым, Крапівоўскі слоўнік беларускую натуральнасць захаваў толькі ў сярэдзіне слова, дзе яна схаваная, не «вытыркаецца». А вось на пачатку і канцы слова, дзе гэты збег галосных «аголены», слоўнік падае яго адпаведна з расійскаю нормаю — без падзелу зычным гукам (іон — ион, іонны — ионный, трыо — трио, адажыо — адажио). Другое выданне «Русскобелорусского словаря», здзейсненае пад патранатам аднаго рэдактара — Кандрата Крапівы, адкінула адметна беларускае афармленне іншамоўных словаў (з збегам галосных), замяніўшы яго на расійскую норму.

Крыўдна, што 4-е (1993) і 5-е (1994) яго перавыданні, што выйшлі ўжо ў час нацыянальна-культурнага адраджэння, захавалі зрусіфікаваную перадачу згаданай заканамернасці афармлення іншамоўных словаў. Так, у выданні 1993 (і 1994) года бачым: адажио — адажыо (т. 1, с. 32); сольфеджио — сальфеджыо (т. 3, с. 408); трио — трыо (т. 3, с. 549); ион — іон. Иония — Іонія, ионизация — іанізацыя, Иордания — Іарданія (т. 3, с. 576—577). Але новыя тэрміналагічныя слоўнікі, выдадзеныя ў 1993—1995 гадах, трымаюцца згаданага беларускага закона гармоніі гукаў у афармленні іншамоўных словаў. Так, у «Руска-беларускім фізічным слоўніку» 1994 года, аўтары Ул. Самайлюковіч, Ул. Пазняк, А. Сабалеўскі, чытаем: ион — іён, ионизация — іянізацыя, ионизатор — іянізатар (с. 79), деионизация — дэіянізацыя (с. 48) і іншыя. І гэта натуральна: паслядоўна захоўваецца фанетычная (і арфаграфічная) заканамернасць беларускай мовы: іён і дэіён, іянізацыя і дэіянізацыя і г. д. А вось зрусіфікаваныя слоўнікі павінны пісаць па-рознаму: іон, іонны, але дэіён і дэіённы, парушаючы гэтым самым напісанне таго самага кораня, калі ён займае рознае месца ў слове — на пачатку (іон, іанізацыя) і ў сярэдзіне слова (дэіён, дэіянізацыя). Дарэчы, у «Выніковым дакуменце» Дзяржаўная арфаграфічная камісія этымалагічнае **іо (ыо)** на канцы слова раіла перадаваць як **іё(ыё)**: адажыё, сальфеджыё, трыё.

Усё згаданае пераконвае, што іншамоўныя спалучэнні галосных у пазычаных словах мусяць падзяляцца зычным гукам паводле закона гармоніі гукаў ва ўсіх пазіцыях: 1) на пачатку слова: Іярдан, Іярданія, іён, іянізацыя, іянізатар. Іянічнае мора, Іёнія; 2) у сярэдзіне слова: трыёд, трыяда, трыялет; 3) на канцы слова: адажыё, сальфеджыё, трыё, Токіё.

Дык трымаймася свайго, натуральнага афармлення іншамоўных словаў пры збегу галосных у іх складзе!

***Меркаванні***

## ВАЙСКАВОДЦА

Неаднойчы, карэктуючы беларускія тэксты, сутыкаешся з словамі, якія заўсёды хочацца замяніць іншымі. Звычайна — гэта альбо грубыя калькі, ці неапраўданыя пазычанні, якія, дадамо, часта маюць марфемную будову, неадпаведную нашай мове.

Адно з гэткіх словаў — вельмі частотны ў сучаснай перыёдыцы вайсковы тэрмін «галоўнакамандуючы». Што ж змушае пастаянна пазбягаць ягонага ўжывання ці шукаць вартую замену? Па-першае, — неўласцівая нашай мове форма дзеепрыметніка цяперашняга часу незалежнага стану з суфіксам -юч; па-другое, — поўная калька з расійскае мовы; па-трэцяе, — відавочная нязграбнасць (паспрабуйце праскланяць яго...) і чужыня слова.

Бальшыня слоўнікаў дае пераклад расійскага «главнокомандующий» беларускім «галоўнакамандуючы» (гл. Беларуская мова. Дапаможнік для вайскоўцаў. — Мн. — 1993; РБС. Мн. — 1993; і інш.). Хіба што «Расійска-крыўскі слоўнік» В.Ластоўскага змяшчае, апроч «галоўнакамандуючы» такі адпаведнік, як «ваявода». Апошні варыянт, на мой погляд, таксама не вельмі прыдатны для замены, бо цяпер ваявода — гістарызм, а таксама мае значэнне кіраўніка мясцовай адміністрацыі ў Польшчы.

Мяркую, што праблему з пошукам адпаведніка можна вырашыць праз слова вайскаводца, выкарыстанае У.Шатонам у перакладзе «Песні пра зубра». Так, чытаем у творы наступныя радкі пра Вітаўта: *«...Але **вайскаводцу**-літвіну болей па густу былі гонкі на конях ліхіх».* Як бачым, тут «вайскаводца» мае блізкае да «галоўнакамандуючы» значэнне. Нягледзячы на розную стылёвую прыналежнасць словаў, «вайскаводца», паводле ўнутранай формы, выдатна адпавядае зместу гэтага вайсковага тэрміна. Да таго ж, прапанаваны мною варыянт замены не мае адцення канцылярызму, што ўласцівае слову «галоўнакамандуючы».

**Антось КУЗЬМІЧ.**

